Беларуская газета

sumezhzha

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі;
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...

Я.КУПАЛА



№ 17 (117) Заснавана ў 1991 годзе. ліпень 2001 г.

# Скарбы тайнага бокса

Гэта дзіўная нават для нашага часу гісторыя, можна сказаць, пачалася ці зрабіла свой першы абарот у мінулым годзе. 17 лістапада генеральны дырэктар Віцебскага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання А.Казлоў аддаў загад "Аб неабходнасці пераасnашчэння лясгасаў Віцебскага ПЛГА вялікагрузнымі аўтапаяздамі-сартыментавозамі і высокапрадукцыйным дрэваапрацоўчым абсталяваннем." Шэрагу лясгасаў Віцебшчыны гэтым загадам рэкамендавалася заключыць дагаворы на набыццё вялікагрузных аўтапаяздоў-сартыментавозаў тыпу МАЗ. Быў сярод іх і Пастаўскі лясгас. Дырэктар гэтага прадпрыемства А.Сапрончык перадаў пісьмовы загад галоўнаму інжынеру С.Гінько для выканання.

Але як выканаць указанне зверху? У лясгасе такіх вялізных сродкаў для набыцця аўтамабіля няма. І тады галоўны інжынер унёс прапанову. Навошта купляць новы аўтамабіль, калі тэхніка ёсць. Ужо шэсць гадоў стаіць у лясгасе новы КАМАЗ-53212. Стаіць і не эксплуатуецца. Прычапіць да яго прычэп і аўтапоезд гатовы. Дарэчы, зазначыў галоўны інжынер, таксама каля шасці гадоў стаяць і не эксплуатуюцца аўтамабіль ГАЗ-66 з кунгам, які б вельмі спатрэбіўся для перавозкі людзей, і два трактары Т-25. Тэхніка новенька, хоць заўтра ў работу…

Гэтыя словы дайшлі да генеральнага дырэктара А.Казлова. І ў галоўнага інжынера С.Гінько пачаліся непрыемнасці. Пералічваць іх сёння няма сэнсу, бо тэма нашай гаворкі іншая. Скажам толькі, што ў рэшце рэшт работнік, які прапаноўваў пусціць у работу прастойваючую тэхніку, вымушаны быў сёлета звольніцца па ўласнаму жаданню, а адпрацаваў ён на прадпрыемстве ні многа ні мала 34 гады. Зразумела, чалавеку было крыўдна. І ён у пошуках справядлівасці пачаў звяртацца ў розныя інстанцыі. І як усе пакрыўджаныя ў сваіх зваротах указваць тыя факты дзіўнага гаспадарання ў Пастаўскім лясгасе, якія панавалі да апошняга часу і якія прывялі прадпрыемства ў заняпад.

Ці то скаргі ў рэшце рэшт былі пачутыя, ці з'явіліся іншыя, не вядомыя нам абставіны, але органы міліцыі зацікавіліся ў рэшце рэшт нашым лясгасам. Той факт, што вялікагрузны аўтамабіль КАМАЗ-53212, аўтамабіль ГАЗ-66 і два трактары ёсць у лясгасе і шмат гадоў, новыя, прастойваюць асабліва і правяраць не не трэба было. Пра гэта ведае кожны работнік прадпрыемства. Але быў выяўлены на тэрыторыі Пастаўскага лясгаса адзін таемны бокс. Ключы ад якога, як аказалася, знаходзіліся толькі ў … А.Казлова. Так, Аляксандр Мікалаевіч да свайго павышэння і пераезду ў Віцебск працаваў дырэктарам Пастаўскага лясгаса. Ну вось неяк так і застаўся ў яго карыстанні адзін з боксаў былога падначаленага прадпрыемства.

З захаваннем неабходных і абумоўленых працэдур пры панятых бокс быў адчынены. Ды што там панятыя. Сведкамі агляду таемнага бокса сталі дзесяткі рабочых лясгаса. А паглядзець было на што. Нехта з рабочых пажартаваў: "ну вось і ніякіх шоу табе ды салонаў не трэба. Усё на месцы."

Вось пералік таго, што было знойдзена ў боксе на вытворчай тэрыторыі, унесена ў пратакол, сфатаграфавана не толькі міліцыяй, але і староннім аматарам фотаздымкаў. Абсалютна новыя легкавыя аўтамабілі "Вольва-850", "Жыгулі" восьмай мадэлі, мікрааўтобус "РАФ", аўтамабіль "УАЗ-469". Апошні, праўда, пасля капітальнага рамонту. Тры матацыклы вытворчасці мінскага завода. Два трохкалёсных матацыклы. Два мотаблокі. Станок для дрэваапрацоўкі. Пасудамыечная машына. Скураная мэбля, у тым ліку 8 канап вытворчасці Нідэрландаў… А усяго 39 найменаванняў.

Зразумела, якую рэакцыю шматлікіх работнікаў лясгаса, выпадковых сведкаў агляду таемнага бокса выклікалі ўсе гэтыя багацці. Адзін аўтамабіль "Вольва" па ацэнцы спецыялістаў каштуе дзесяткі тысяч долараў. Зразу-

*(заканчэнне на 2-й старонцы)*

# Скарбы тайнага бокса

*(заканчэнне, пачатак на 1-й старонцы)*

мелыя і іх меркаванні на гэты конт. калі ўлічыць, што заработная плата на прадпрыемстве для галіны параўнальна нізкая. за апошнія дзесяць гадоў не пабудавана тут ніводнай кватэры ( гэта ў арганізацыі, дзе працуюць з лесам і дзе тыя ж работнікі рубяць зрубы для іншых, праўда, мэт).

Але будзем аб'ектыўнымі. Адпаведным органам трэба шмат папрацаваць, каб высветліць прыналежнасць знойдзенага. Ды і тлумачэнні зацікаўленай асобы трэба выслухаць. Але нешта вядома ўжо сёння. "Жыгулі", мікрааўтобус "РАФ", аўтамабіль "УАЗ-469" былі некалі на балансе лясгаса. Вось прадаваліся, праўда, як ужо малапрыгодныя для выкарыстання. І тут адразу ўспамінаецца незразумелы "прастой" аўтамабіляў "КАМАЗ", "ГАЗ-66", двух трактароў. Магчыма, гэтак сама "старыліся" і аўтамабілі з таемнага бокса? Але гэта толькі здагадка, меркаванне журналіста. Для таго, каб канчаткова разабрацца, патрэбна карпатлівая праца адпаведных органаў.

А ім, нашым органам, не пазайздросціш. Бо разбірацца, як мне думаецца, давядзецца не толькі па пытанню таго, што знойдзена ў таемным боксе. Больш дзесяці гадоў у Паставах будуецца дом для А.Казлова. Будуецца ён і сёння, калі сам гаспадар пераехаў працаваць у Віцебск. Дом па-ранейшаму на балансе лясгаса, а ў таго не хапае грошай нават на закуп паліва. На будаўніцтве занятыя работнікі лясгаса. Як яны афармленыя, за што афіцыйна атрымліваюць заработную плату? Як афармляецца выдзяленне на будаўніцтва дома матэрыялы? Як трапілі на гэта будаўніцтва каштоўныя пароды дрэў: ясень, бук, вяз, дуб і нават яблыні? Вельмі цікава будзе атрымаць адказы на гэтыя пытанні. Жонка А.Казлова, дарэчы, жыве ў Паставах , у вышэйпамянёным доме. І афіцыйна лічыцца работніцай Пастаўскага лясгаса. А як часта яна наведвае рабочае месца? Таксама цікавае пытанне. Ці яшчэ такі штрых на працягу ўсіх гадоў, як у доме жывуць людзі, з коміна не ішоў дым. Аказваецца ацяпленне тут электрычнае , з дапамогай масляных радыятараў. А як жа з аплатай? І тут пытанне. Скажам толькі, што нядаўна электрычнае сілкаванне абласным энергаглядам ад дома адключана.

У адрас журналіста можа прагучаць папрок: ці не празмерная паспешлівасць з вывадамі. Пакуль што вывадаў няма, ёсць толькі пытанні, якія журналіст мае поўнае права задаць. Да таго ж ёсць адна акалічнасць. Пра дырэктара Пастаўскага лясгаса А.Казлова мне даводзілася ўжо пісаць . У газеце "Звязда" за 13 мая 1993 года надрукаваў артыкул "Іржа нажывы". Няма сэнсу прыводзіць тут яго змест. Прывяду толькі словы тагачаснага начальніка пасажыра-грузавога аддзела Пастаўскай мытні М.Манкевіча, сказаныя ім на сесіі мясцовага райсавета, яны раскрываюць сутнасць справы:

"Нешта падобнае адбылося і з вадзіцелямі "КАМАЗа", якія вывозілі больш трох тонметалу і 40 чыгунных труб. У іх былі афармленыя дзве пуцёўкі - на Дынтунскі спіртзавод і на ВА "Флангіяс" літоўскага горада Малетай. Падчас тэлефоннай размовы з дырэктарам спіртзавода высветлілі, што такога грузу на прадпрыемстве не чакаюць. Ды і вадзіцелі не збіраліся туды ехаць, як не збіраліся яны перасякаць і мытныя пасты. Разам з тым Пастаўскі народны суд вызваліў вадзіцеляў ад адказнасці на той падставе, што яны выконвалі свае службовыя функцыі. Груз быў вернуты лясгасу. Аднак мы афіцыйна папярэдзілі дырэктара лясгаса А.Казлова, што яго дзеянні не адпавядаюць існуючаму заканадаўству і пры паўтарэнні падобнага ён будзе несці строгую адказнасць. Але такое папярэджанне, бачна, не паўздзейнічала на кіраўніка. Не так даўно на а-п "Казнадзеюшкі" зноў была затрымана аўтамашына Пастаўскага лясгаса, якая вывозіла лес у адрас таго ж літоўскага атрымальніка па несапраўднай ліцэнзіі, без тавара-транспартных накладных".

Як кажуць, што тут і дадаць. У тыя часы заканадаўства аб мяжы адсутнічала. І многае сходзіла з рук. Але карані сённяшняй гісторыі бачацца менавіта там. Дарэчы, і сляды так "нечакана" знойдзенай "Вольвы" можна пры жаданні прасачыць. Былі ў былога дырэктара лясгаса сувязі на пастаўцы лесу ў мінскую фірму "Еўрабуд".

Я ўсё называю ўскрыты міліцыяй бокс таемным. Але ж гэта зусім не так. Ведалі пра гэты бокс работнікі лясгаса. Ведалі прыблізна і пра тое, што там знаходзіцца. Як добра вядома ў калектыве і пра іншыя абставіны, акалічнасці і г.д. Ад людзей цяжка што схаваць, тым больш, што заўсёды патрэбны грузчыкі, рабочыя. І рабочы чалавек , такая ўласцівасць у яго ёсць, звязвае і пазітыўныя, і асабліва негатыўныя з'явы ў сваім калектыве ўвогуле са становішчам у рэспубліцы, з вышэйшым кіраўніцтвам. Так што мясцовыя махінатары, дбаючы аб сваіх справах, робяць мядзведжую паслугу вышэйшаму кіраўніцтву. Асабліва ў часы перадвыбарных кампаній.

Ну а работнікам лясгаса даўна насцеў час задумацца аб тым, што ўсё -такі і ад іх многае можа залежыць. Проста трэба зрабіць першы крок ад адвечнай боязі.

***Алесь КАСЦЕНЬ.***



СПЫТАЕМ ДЗЯДУЛЮ МІКОЛУ

Традыцыйны, ліпеньскі адказ дзядулі Міколы на пытанне карэспандэнта "Сумежжа":

- Раскажу аб тым, як мяне агітавалі. Ды, уласна кажучы, маю хату наведалі толькі два зборшчыкі подпісаў за матчымых кандыдатаў у дэпутаты. Заходзіў хлопец, агітаваў за Сямёна Домаша. Гэта імя мне ўжо знаёмае, таму падпісаўся з ахвотай. Такія людзі, цвярозыя, адукаваныя, а, галоўнае, ураўнаважаныя, без ніякіх выбрыкаў і абяцанняў усіх выкрыць і пасадзіць альбо адразу ўсім па тэлевізару і халадзільніку, нам патрэбныя. Няхай сабе і не на прэзідэнцкай пасадзе, але там, дзе вырашаецца будучыня краіны. Заходзіла дзяўчына з падпісным лістом за Аляксандра Лукашэнку. Я ні ў якім разе не буду галасаваць за гэтага кандыдата, мне хапіла тых сямі гадоў, якія я па тэлевізары слухаў яго брыгадзірскія нарады з прычыны то сяўбы то ўборкі. Але подпіс той паставіў, бо шкада стала дзяўчыну, не па сваёй волі яна пайшла з гэтым лістом па хатах, выклікалі настаўніцу і загадалі столькі то подпісаў сабраць. Адгул, напэўна, паабяцалі. Хай сабе. Да таго ж у суседняй хаце ёй далі такі адлуп, што выскачыла як ашпараная. Ды праўду сказаць, і таго хлопца ў адной хаце на нашай вуліцы прынялі з лаянкай. Што ж, нервова жывём. Шмат чаго не хапае, а найперш грошай, вось і вызвераецца час ад часу чалавек. Яшчэ зазначу, што многія мае суседзі вельмі мала ведаюць пра тое, што за выбары будуць восенню. Прэзідэнцкія ці прэзідэнцкія. Але пакуль што ў газетах, на тэлебачанні па радыё ў нас гавораць і гавораць і гавораць толькі адзін з мяркуемых кандыдатаў, Лукашэнка. Астатніх нават ганіць сталі менш. Маўчаць. Калі так будзе, калі з'яўляцца афіцыйныя кандыдаты ў прэзідэнты, ні аб якой справядлівасці не можа быць і гаворкі.

# ЗА БУГАМ – ВЯЛІКІЯ ПЕРАМЕНЫ

***Як водзіцца, любыя перамены лепш бачныя на адлегласці па часе. Так атрымалася, што апошні раз у Польшчы давялося пабываць крыху больш шасці гадоў назад. І вось цяпер у сярэдзіне лета за два тыдні ўдалося аб'ехаць многія куткі Падляскага і Вармінска-Мазурскага ваяводстваў. Нават мяркуючы, як цяпер жывуць суседзі, быў уражаны, убачыўшы наколькі наперад за гэтыя гады рэформаў пайшлі палякі, якія вось-вось стануць часткай еўрапейскага саюза...***

## ГАЛЕЧА НА ВЫДУМКУ ХІТРАЯ

Дабіраліся на гэты раз з дачкой да Беластоку цягніком з Гародні. Добра яшчэ, што з маіх Паставаў да "сталіцы нёманскага краю" яшчэ можна за дзесяць гадзін даехаць на старэнькім аўтобусе. У салоне спякота, задуха. За Ашмянамі чамусьці запомнілася, як людзі на мікрааўтобусе з прычэпам звозілі сена, а адна старая цягнула на сабе корм для кароўкі. У Польшчы цяпер рэдка дзе каня ўбачыш, а ўсе работы ў полі і па гаспадарцы вяскоўцы выконваюць на трактарах, сярод якіх не-не, ды і трапляюцца родныя "Беларусы". А вось нашы земляробцы яшчэ не прыйшлі да таго, каб сена ў рулонах яшчэ запакоўваць у каляровую плёнку.

Тое, што час у нас нібыта супыніўся, падкрэслівалі захаваўшыяся ленінскія помнікі ды назвы занепаўшых калгасаў "Маяк", "Шлях да камунізму", імя Леніна і "Светлы шлях", відаць, у тупік. Пераначаваўшы ў аднакласніка, раніцою ўжо ехалі ў вядомым цягніку – "спіртавозе" да Кузніцы. За дзень гэты польскі дызель робіць чатыры рэйсы. А нашы суайчыннікі зарабляюць на жыццё ластаўкай кантрабанднай гарэлкі і цыгарэт. Аббэрсаўшы скотчам кантрабандны груз вакол ног, рук і іншых частак цела, спадарожнікі супакойваюцца толькі ля дзяржмяжы. За паўгадзіны яны пасплываюць разліць у цэлафанавыя пакеты гарачыльныя напоі і схаваць іх у розных чатсках вагона, адвярнуўшы адвёрткамі патаемныя куткі. Відаць, мы з Ленай выпадалі з іх шэрагаў і таму без фармальнасцей прайшлі пагранічна-мытны кантроль на польскім баку.

## АЎТАМАБІЛІ ЎСЁ ЗАПАЛАНІЛІ

На Беласточчыне, дзе, дарэчы, пражывае каля 300 тысяч беларусаў, адразу кінулася ў вочы мноства бязшумных бліскучых іншамарак. Аўтамабілі вядучых сусветных вытворцаў пераважна новыя. У нас такія рэдка сустрэнеш, а яны ж эканамічныя і маленькія па памерах. Потым мне патлумачылі, чаму такім "малечам" палякі аддаюць перавагу. На-першае, з-за інтэнсіўнага руху з аўтамабілем малога сярэдняга класа лягчэй манеўраваць на дарогах, ды і прыпаркавацца ў горадзе і каля свайго дома лягчэй.

З сярэдзіны дзевяностых гадоў нашы суседзі аўтамашын сталі купляць новых, а не карыстаных, у межах трохсот тысяч і выйшлі па гэтаму паказчыку на трэцяе месца ў Еўропе. Аўтамабільны бум дасягнуў ужо і сельскай глыбінкі. Цяпер не рэдкасць, што нават у буйной вёсцы не адна, а нават дзве аўтазаправачныя станцыі. Пры запраўцы абавязкова яшчэ маленькае кафэ, мыйка і аўтамеханік, гатовы аказаць тэхнічную дапамогу. На ажыўленых аўтастрадах ужо гадоў дзесяць як жыхары навучыліся зарабляць злоты на мініяцюрных матэлях, гасцініцах

*(заканчэнне на 4-й старонцы)*

*(заканчэнне, пачатак на 3-й старонцы)*

і кавярнях.

Вынікі смелых рыначных рэформаў за апошнія гады прывялі да таго, што бліскучыя аўтамабільныя салоны размяшчаюцца нават у павятовых ( раённых) гарадах. Да прыкладу, адно такое мястэчка Гіжыцка мае пяць салонаў на 31 тысячу сваіх жыхароў, а ў два разы буйнейшы горад Элк – нават дзесяць салонаў "Фіат", "Опель", "Шкода", "Дэу" "Тайёта" і іншыя. Да слова, кожная другая польская сям'я мае цяпер новы аўтамабіль. Мы ж па гэтаму паказчыку саступаем суседзям у 150 разоў, купляючы за год толькі дзве тысячы новых аўта. Нават Латвія з насельніцтвам у пяць разоў меншым беларусаў штогод набываюць 7 тысяч легкавушак.

## ПАЗВАНІЦЕ НАМ З ЛЕСУ

Невыпадкова спецыялісты называюць польскую эканоміку канца 90-х гадоў як адну з самых устойлівых і паспяховых сярод іншых краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. На бытавым узроўні пераканала мяне ў гэтым наведванне невялікага магазінчыка, аднаго з многіх у цэнтры гміны ( сельсавета па-нашаму), дзе, як і летам 1994, зноў паакаштаваў халоднага піва. Чэсна гаворачы, быў уражаны, убачыўшы на прылаўку ў некалькі радоў аж 49 гатункаў бутэлечнага і 31 баначнага пеністага напітку польскіх піўзаводаў. Гэта месца запомнілася, бо сем гадоў назад асартымент піва складаў 18 найменняў. У суседнім мясным аддзеле – паўсотні гатункаў каўбас, многія танней, чым у нас.

За рэдкім выключэннем жыццёвы ўзровень насельніцтва вырас у апошнія гады. Нават у састарэлай вёсцы Кніс непадалёку, дзе толькі ў двух з 15 дамоў жывуць не пенсіянеры, бачныя перамены. Не, балыллём, як у памежных беларускіх вёсках, яны не зарастаюць, наадварот бачыш ля хат чыстыя японскія дварышчы і альпійскія горкі. А яшчэ на васьмі дамах нямецкай пабудовы цяпер спутнікавыя антэны. Хоць у канцы жыцця бачаць людзі ўвесь свет, набыўшы новыя каляровыя тэлевізары. Сталі папулярнымі тут сотавыя тэлефоны і са сваімі блізкімі нават у Беларусі можна пагаварыць, збіраючы грыбы ў бліжэйшым лесе. Старыя могуць сабе дазволіць [illegible] і харчаванне, бо пенсіі ў іх выраслі за 6 гадоў разы ў два і цяпер складаюць 170-200 долараў. Праўда, у іх гарадскіх аднагодкаў пенсіі яшчэ вышэй, але тым даводзіцца плаціць падаходны падатак і аплачваць кватэры.

## ЗАДУМАНАЕ – ЗБЫЛОСЯ

Чэсна гаворачы, адразу не прызнаў кватэру маёй стрыечнай сястры Ядзвігі Скавінскай. З былой мэбліроўкі пакінулі яны з мужам Мечыславам толькі драўляную секцыю ў зале ды італьянскую пральную машыну-аўтамат. Толькі еўрарамонт, новая паркетная падлога абышліся ім у 3 тысячы долараў, як і планавала сям'я



пры апошняй нашай сустрэчы, на мяжы стагоддзяў купілі яны сабе новы аўтамабіль "Фіат-Уно", тэлевізар апошняга пакалення з вялікім экранам, сучасную кухню, камп'ютар, музычны цэнтр, мэблю для сына і дачкі. Бюджэт гэтай сям'і ў 1994 годзе складаў 6 мільёнаў злотых альбо 270 долараў.

Добра памятаю, як сястра трывожылася за заўтрашні дзень, а Мечык наадварот быў упэўнены, што краіна на правільным шляху. І мой швагра не памыліўся. Абодва, як прафесійныя заатэхнікі, працуюць на буйным мясакамбінаце "Мазуры", якім цяпер валодаюць амерыканцы. Галава сям'і загадвае аддзелам кантрактаў, а яго жонка працуе на камп'ютэрызаваным складзе. Цяпер у месяц зарабляюць да 4 тысяч злотых альбо тысячу долараў і адпаведна многае сабе могуць дазволіць. Трэці [illegible] на тыдзень да мора [illegible] тысячу долараў. 17-гадовы сын Марцін даўно з камп'ютэрам на "ты", а дзесяцігадовая Ася акрамя школы займаецца яшчэ на курсах англійскай мовы.

Ні да багатых ні да бедных гэту сям'ю не аднясеш. Хутчэй да тыповых прадстаўнікоў сярэдняга класа, колькасць якога ў Польшчы пастаянна расце. Скажам, сярэдняя заработная плата ў гэтай краіне складала ў маі 2163 злотых (каля 540 долараў). Яна апярэджвала адпаведна паведамленню Галоўнага ўпраўлення статыстыкі з пачатку года на два пункты ўзровень інфляцыі, склаўшы 6,9 працэнта. Пры аднолькавых з беларускімі цэнах, а часта і ніжэйшых, дапамога па беспрацоўю на працягу года складае 100 долараў у месяц.

## ПАЛАЦЫ ІНШАГА ПЛАНУ

Маршрут сваёй шостай за дзесяць год паездкі ў Польшчу пастараўся скласці так, каб увачавідкі пераканацца, што змянілася ў знаёмых мне месцах. І нават у самай глыбінцы краю перамены відавочныя. На вуліцах і ў дварах стала значна чысцей, святлей, прыгажэй. Яны паступова набываюць еўрапейскі лоск. У Польшчы бачна дынаміка, шмат і хутка будуецца. Толькі ў тым жа Гіжыцка ўразіў новы Дом гандлю на 4 паверхі, дзе размесцяцца 150 люкс-крам. У гэтым райцэнтры тры супермаркеты, а да 1 лістапада здадуць і першы гіпермаркет агульнай гандлёвай плошчай 3500 квадратных метраў. Была ў гэтым гарадку адна гасцініца "Воднік". Цяпер ужо тры трохзоркавыя, паколькі тут адно з буйнейшых у краіне славутых мазурскіх азёр і летам шмат турыстаў і адпачываючых.

Тры гады назад сярод першых у ваяводстве ў Гіжыцку зьявіўся і свой Палац водных відаў спорту ( будавалі 18 месяцаў). У ім некалькі басейнаў, уключаючы і для самых маленькіх, ванны-джакузі для падводнага масажу, вадзяныя горкі. Нібыта грыбы пасля дажджу такія цэнтры для плавання з'явіліся ў Ольштыне, Ломжы, Элку і іншых павятовых гарадах. Яны адкрытыя штодзённа для ўсіх жадаючых з 6 раніцы да 10 вечара. Гадзіна аздараўленчых працэдур каштуе долар-паўтара ў залежнасці ад часу сутак. Цяпер кожны школьнік двойчы ў месяц прыходзіць альбо прыязджае з вёсак на ўрокі плавання. І не трэба купляць дарагіх хакейных даспехаў, дастаткова захапіць з сабою шапачку і рушнік. І чаму, падумалася там, наш "бацька" не захапіўся плаваннем?

## З ДУМКАМІ АБ ЕЎРАСАЮЗЕ

У адрозненне ад нас большасць палякаў бягучай палітыкай цікавіцца мала. І ўсё ж ёсць адна тэма, якая аднолькава хвалюе многіх. Аб інтэграцыю ў еўрапейскую сям'ю не гаворыць толькі што нямы. Па гэтаму пытанню ў суседзяў будзе праведзены рэферэндум, на якім грамадзянам трэба выказацца па трох пытаннях: перспектывах сельскай гаспадаркі, звароце зямлі і працаўладкаванні. Польшча сярод астатніх 13 краін-кандыдатаў на ўступленне ў ЕС - прэтэндэнт нумар адзін. Бо сёння гэта краіна больш 60 працэнтаў свайго знешняга тавараздвароту здзяйсняе на захадзе, значна больш іншых уніфіцыравала свае законы з тымі, што дзейнічаюць у вядучых краінах кантыненту.

Таму ўжо сёння, маючы насельніцтва пад 39 мільёнаў чалавек,Польшча можа разлічваць і на асобны статус і ў агульным кіраўнічым органе Еўрасаюза, мець 27 галасоў, што нават больш, чым сёння маюць Швецыя, Фінляндыя, Данія, Ірландыя, Люксембург разам узятыя. Прычым, палякі ў адрозненне ад нас робяць свой выбар свядома, маючы магчымасць даведацца пра ўсе плюсы і мінусы будучых пераўтварэнняў. Прэса, радыё, тэлебачанне ( адных агульнанацыянальных каналаў толькі 10) у суседзяў свабодныя, не належаць дзяржаве. Прыемна проста ўзяць у рукі ўсе каляровы ад сталіцы да раёна таўстыя польскія газеты. Кожны дзень акрамя звычайнай газеты чытачу дастаўляецца яшчэ і тэматычны дадатак,



па чацвяргах праграма тэлебачання ў выглядзе каляровага часопіса на 84 старонках. Ды і глядзець па тэлебачанні можна 50 каналаў, а па спадарожнікавай антэне яшчэ больш.

Наконт будучага ў людзей ёсць меркаванне, што ў ЕС палякам горш не будзе. Уступленне ў Еўрасаюз па меркаванню аналітыкаў яшчэ ў два разы паскорыць тэмпы развіцця польскай эканомікі. Далейшы рост інвестыцый дазволіць суседзям з набыццём членства праз чвэрць стагоддзя дасягнуць 75 працэнтаў сярэдняга ўзроўню развіцця багацейшых краін Еўропы.

## ЧАМУ ЎСЁ НЕ ТАК ?

У кароценькіх нататках, зразумела, нельга расказаць пра многія іншыя бакі жыцця польскага грамадства, аб праблемах у развіцці. Хачеў бы, каб чытачы зразумелі: пабываў я ў самым дэпрэсіўным раёне краіны. Праблема з праблем для Мазур, што тут кожны пяты, а то і кожны чацвёрты не мае пастаяннай працы . Асноўныя праблемы ў маленькіх гарадках з адным вялікім прадпрыемствам, якое працавала раней на СССР. Аднак псіхалагічна людзі за Бугам ужо пераменіліся. Яны і працуюць не так, як пры камуне, ды і спакайней пераносіць розніцу паміж багатымі і беднымі. За 10 год пераўтварэнняў Польшчу стала не пазнаць. Краіна памянялася карды-нальна.

Дастойны ўвагі і паказчык, што 75 працэнтаў дарослага насельніцтва Польшчы па дадзеных вучоных Інстытута даследванняў еўрапейскіх каштоўнасцей адчуваюць сябе шчаслівымі людзьмі. А што мы, беларусы?

Кожны раз, калі вяртаюся дадому з-за мяжы, доўга не магу прыйсці ў сябе. Апошнія сем гадоў мы фактычна тапталіся на месцы, калі кругом суседзі пайшлі наперад. У параўнанні нават не з самымі заможнымі па сусветных мерках палякамі беларусы сталі выглядаць яшчэ больш гаротна. Абнадзейвае, што мая 12 гадовая дачка, толькі ступіўшы на родную зямлю, адразу задала пытанне: чаму мы не так жывём. Магчыма, і дарослыя хутка зразумеюць, што існуючую палітыка-эканамічную сістэму даўна трэба памяняць. На самой справе нашчадкі нам не даруюць, калі і ў новым стагоддзі застанёмся еўрапейскімі ізгоямі.

***Уладзімір Шык.***

# ПРОСЦЕНЬКІ ПОДПІС

## *(жыццёвая сітуацыя)*

Як вы распісваецеся? Разумею, што некага здзівіць гэта пытанне. Кожны чалавек распісваецца так, як прызвычаіўся ў гады юнацтва, калі ўпершыню пачаў ставіць свой подпіс пад дакументамі, атрымліваць нейкія грошы. І адносіны чалавека да ўласнага подпісу, напэўна, адпавядаюць складу яго характару, тэмпераменту, амбіцыйнасці ў рэшце рэшт. Нехта любіць "выдаць" подпіс з завіткамі і іншымі магчымымі ўпрыгожваннямі, нехта проста піша сваё прозвішча, а нехта грамзае на паперы некалькі рысак і лічыць, што гэта дастаткова. Але бываюць, аказваецца, сітуацыі, калі якраз і недастаткова.

Але давайце ўсё па-парадку.

Ёсць у Пастаўскім раёне калгас "Праўда". А ў гэтым калгасе жывуць пенсіянеры, муж і жонка Алена Іванаўна і Франц Францавіч Шылько. Як і пераважная большасць пенсіянераў у нашай вёсцы трымаюць жывёлу, абрабляюць зямлю. Здаюць малако дзяржаве. Вось з-за гэтага малака і атрымалася гэта непрыемная гісторыя. Цягнецца яна ўжо год, але развязкі пакуль што не бачыцца.

Сутнасць справы такая. Алена Іванаўна Шылько звярталася ў розныя інстанцыі і органы са скаргай, што ёй не выдадзены грошы ў суме 10319 рублёў за здадзенае малако ў перыяд з 1.08 па 15.08 2000 года. А ў ведамасці на атрыманне грошай пастаўлены подпіс не яе мужа. З другога боку эканаміст калгаса Е.Гігола, нам. галоўнага бухгалтара Р.Далжонак, галоўны бухгалтар О.Сенюковіч сцвярджаюць, што пры першапачатковым прадяўленні ведамасці Франц Францавіч Шылько указваў, што подпіс пастаўлены ім. А потым, пад ціскам жонкі, пачаў сцвярджаць, што распісваўся не ён.

Такое вось процістаянне цягнецца ўжо год. З аднаго боку сям'я вясковых пенсіянераў. З другога боку работнікі бухгалтэрыі.

Рыхтуючы гэты артыкул я размаўляў з многімі людзьмі. Пэўнае ўяўленне аб сітуацыі ў калгасе, людзях, што ўцягнуты ў канфлікт, з'явілася. Людзі ў бухгалтэрыі калгаса працуюць адказныя, сумленныя. Ды, калі паправдзе гаварыць, сума, па мінулагодняму нават курсу нашага беларускага рубля нязначная для таго, каб адказныя работнікі, што ўсё жыццё маюць справу з чужымі грашыма, уступалі ў змову, каб абрабаваць няшчасных пенсіянераў. Ды яны ж і жывуць у адной вёсцы, практычна кожны дзень сустракаюцца вочы ў вочы.

Але. І сям'ю пенсіянераў Шылько на вёсцы паважаюць. Простыя, працавітыя, сумленныя людзі. І не сябруе Франц Францавіч з чаркай. Першае, што нехта з чытачоў падумаў, магчыма. Атрымаў грошы, прапіў, цяпер і не сазнаецца жонцы, гаворыць, што не ён распісваўся. Не, сітуацыя не тая. А грошы, між іншым для сям'і па тым часе былі немалыя.

Пачаў гэту размову я з подпісаў. Дык цяпер і аб іх. Заява Алені Іванаўны Шылько дайшла да Віцебска. І вось адтуль, з экспертна-крыміналістычнага цэнтра ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкома прыйшоў наступны адказ: " Рашыць пытанне аб тым кім Шылько Ф.Ф. альбо іншай асобай выкананы подпісы ў графах ад імя Шылько Ф.Ф. і Пляшкун В.І. прадстаўленай на даследванне плацёжнай ведамасці №134 за молоко колхоз "Правда" з 1 па 15 жніўня не прадстаўляецца магчымым па прычыне прастаты выканання дадзеных подпісаў, іх графічнай і ідэнцыфікацыйнай малаінфармацыйнасці і нязначнасці, немагчымасцю ў сувязі з вышэйуказанымі прычынамі вылзеліць той альбо іншы комплекс прыкмет дастатковы для якой-небудзь пэўнай высновы. Прыкмет тэхнічнай падробкі дадзеных подпісаў не ўстаноўлена." Адказ я прывёў, захаваўшы сінтаксіс арыгіналу. Не ведаю, ці поўнасцю зразумелі яго пенсіянеры Шылько. Нам жа зразумела, што просценька распісваўся ў ведамасцях малаадукаваны Франц Францавіч і таму экпертыза не можа вызначыць яго гэта подпіс альбо не.

Усё. Далей звяртацца няма куды. У калгаснай бухгалтэрыі лічаць сябе пакрыўджанымі, бо іх падазраюць у недобрасумленнасці. Пенсіянеры Шылько лічаць сябе пакрыўджанымі, бо не атрымалі грошай. Яны нават малако цяпер здаюць не ў сваю гаспадарку, а ў суседні калгас. Што ж да парадаў звярнуцца ў суд, то пенсіянеры Шылько гэтага рабіць, думаецца, усё- такі не будуць. Простаму вяскоўцу само вызначэнне "суд" нясе негатыўныя эмоцыі, а то і пачуццё боязі.

Дык што развядзём рукамі? У дадзеным выпадку бадай што так.

Ды толькі розныя думкі агортваюць. Вяскоўцы здаюць малако не калгасу, а дзяржаве. Калгас выступае своеасаблівым пасрэднікам. Збірае малако з падвор'яў жыхароў вёсак, завозіць яго на малаказавод. Атрымлівае грошы за гэта малако і потым выплочвае яго людзям. Што казаць, калі заводы разлічваюцца за здадзенае малако досыць карэктна і своечасова, то ў калгасах бываюць выпадкі і затрымак. Ці мала яшчэ якая пільная патрэба ў грашах узнікае. Да таго, каб разлікі былі безнаяўнымі, каб грошы адразу паступалі на рахункі здатчыкаў малака мы дажывём яшчэ не хутка. І ці дажывём увогуле.

Сляды гэтай непрыемнай гісторыі з цягам часу сатруцца ў памяці людзей. Знікавее і крыўда. Ды толькі рэчаіснасць цяперашняга вясковага жыцця такая, што глебы для падобных да і іншых канфліктаў хапае.

***Алесь Касцень.***

# ГЭТА НЯХІТРАЯ ЛІСІЧКА

Відаць, што самы звычайны грыб нашых лясоў, лісічку назвалі так толькі з-за яе колеру. Вялікай хітрасці ў хаванні ад грыбніка яна не мае. Ды і расці стараецца больш на сцяжынах ды супрацьпажарных канавах, што апутваюць сёння нашы лясы. А дарэмна. Сёння паляванне на гэты спіплы і раней зусім неацанімы грыбок ідзе па ўсіх правілах так званага ціхага палявання. Раней людзі адпраўляліся ў лес " па грыбы". Цяпер адпраўляюцца менавіта "па лісічкі". А калі сустрэнецца часам які іншы грыб бяруць і яго, ды толькі так, таму што трапіў на вочы. А вось лісічка гэта...

Напярэдадні таго сезону, калі ў нашых лясах з'яўляюцца першыя грыбы, прачытаў у адной з рэспубліканскіх газет аб'яву: камерцыйная фірма ў неабмежаванай колькасці прымае лісічкі, ну а рэалізуе са сваіх складоў кансерваваныя мясапрадукты вытворчасці краін Заходняй Еўропы і Злучаных Штатаў. Ёсць меркаванне, што на захад ад нас ідзе самае каштоўнае, што ў нас ёсць, ну а да нас ад іх тое, што там не асабліва і патрэбна. Магчыма, меркаванне ў нечым і справядлівае. Але ў дадзеным раскладзе - хай сабе. Няхай беларуская лісічка ідзе на захад, калі яе там так ужо паважаюць. Відаць, і мясныя прадукты адтуль нам не зашкодзяць. Тым больш, што вельмі многія людзі ў беларускай правінцыі са зборам і продажам лісічак звязваюць немалыя надзеі ў плане папаўнення сваіх сямейных бюджэтаў.

Тая аб'ява ў рэспубліканскай газеце прызначана была, зразумела, не для вяскоўцаў і жыхароў гарадкоў, якія з кошыкамі выпраўляюцца на збор грыбоў. Звярнулі ўвагу на яе найперш так званыя скупшчыкі. Іх на сезон збору лісічак з'яўляецца на нашых гарадках і вёсках вельмі шмат. Менавіта яны пастаўляюць грыбы ў буйныя фірмы. Яны становяцца пасрэднікамі паміж зборшчыкамі і фірмамі, маючы на гэтым сваю долю.

Завітаў неяк з роднай маёй вёскі дзядзька. Праблема. Прывёз ён на продаж пару кошыкаў лісічак. А вось куды падзецца з прадуктам - не ведае. У раённай нарыхтоўчай канторы прымуць. Ды цана. Па 800 рублёў за кілаграм. Малавата дзядзьку. Ды і зразумела, што малавата. На Пастаўчыне добра памятаюць, што ў мінулым годзе нарыхтоўшчыкі з блізкай Літвы плацілі за той жа кілаграм тры долары. Чым дапамагчы дзядзьку? Сёлета неяк не цікавіўся гэтай праблемай. А чаму б не пагартаць раённую газету. Пагарталі. І сустрэлі досыць цікавую аб'яву. Нейкі прадпрымальнік запрашае на... пераборку лісічак. Дзядзька спачатку пасмяяўся, а потым задумаўся. Але ж усё звычайна. Такім чынам знаходлівы чалавек крыху закамуфліраваў сваю аб'яву аб тым, што так, менавіта так, па гэтаму адрасу і закупляюцца лісічкі. Дзядзька накіраваўся па ўказанаму адрасу і вярнуўся задаволены. Прынялі яго збор. Не па тры долары, праўда, а па 1400 рублёў за кілаграм. Ды ўсё-такі значна больш, чым прапаноўвала нарыхтоўчая кантора.

Што ж да "пераборкі лісічак". Справа ў тым што Пастановай СаветаМіністраў Рэспублікі Беларусь " Аб



мерах па ўзмацненню кантролю за прамысловай нарыхтоўкай, закупкамі і рэалізацыяй дзікарослай прадукцыі і ўпарадкаванні гэтых відаў дзейнасці" прадугледжваецца ліцэнзаванне дзейнасці скупшчыкаў. Калі ты ў дзень закупляеш больш 2 кілаграмаў лісічак, то будзь ласкавы выберы ліцэнзію на такі від дзейнасці. Дарэчы, гэтай жа пастановай забаронена набыццё ў насельніцтва лісічак, памер шляпак якіх менш 1,5 сантыметра ў дыяметры і якія складаюць больш 5% ад сабранай масы грыбоў. Сэнс пастановы зразумелы: дзяржава выкарыстоўвае свае фіскальныя правы і ў той жа час робіць спробу хоць неяк абараніць грыбныя запасы нашых лясоў.

Вось толькі, як бачна з прыведзенага вышэй прыклада, далёка не ўсе скупшчыкі адразу сталі і стануць у чаргу за атрыманнем ліцэнзій. Што ж да таго, каб не выбіраліся ў нашых лясах зусім дробныя "лісяняткі", то гэта ўсё-такі на сумленні зборшчыкаў, якія ў памкненні зарабіць не павінны губляць павагі да роднай прыроды. А нарыхтоўшчык прыме ўсё, знойдзе нейкую магчымасць, прыдумае нейкую "пераборку".

Рэальнасць такая, што, нягледзячы на прымаемыя захады, прадпрымальныя нарыхтоўшчыкі, фірмы выйграюць у тых жа нарыхтоўчых кантор. Выйграе той, хто больш плоціць.

Што ж да дзядзькі з роднай вёскі, то збіраючыся дадому, ён хітравата ўсміхнуўся:

- Ты думаеш, што я ўсе грыбы здаў? Не, пакінуў і сабе лісічак. Вось на вырučаныя грошы куплю сабе курыных акарачкоў. Замежныя, але нічога, пойдзе. Адвараю лісічкі, прапускаю праз мясарубку. Курынае мяса таксама праз мясарубку. Яйко туды, спецый. Катлеты атрымліваюцца - смаката!

***Алехна Хорт.***

# ВЯСКОВЫЯ ГІСТОРЫІ

## Ноч з іскрынкай

Гэтай справай цяпер дзядзька Пётра займаецца вельмі рэдка.

Можна сказаць, для душы. Самагонку для патрэбы гоніць сама Аліна. Ды і якая гэта самагонка? Распусціць цукар, дабавіць дражджэй, крыху малака. Выхадзілася колькі дзён - і гані ў місках прама на газавай пліце. Моцная атрымліваецца, але ж цукроўка. З механізатарам разлічыцца, з камбайнерам. Ды і самому калі прыкласціся. Але ж каб для душы, каб даўнейшыя галочкі ўспомніць - тут патрэбна зусім іншае. Тут без зерня не абысціся, і часу патрабуецца шмат. Зерне ж трэба замачыць, прарасціць. Потым высушыць на печы. Потым змалоць. А заварыць? Тут, брат, цэлая навука, не кожны і патрапіць Але ж затое як выхадзіцца брага, надыходзіць свята. Рэдкае цяпер вельмі, але свята. Пётра заўсёды гоніць такую самагонку ў лазні. Там у яго ўсе для гэтага падрыхтавана і заўсёды ноччу. Жонка спіць - няма каму пракантраляваць ды пасварыцца. Сам сабе гаспадар.



Вось і гэта ноч у дзядзькі з іскрынкай. З вечара ён напічкаў таншэй дроў, каб падтрымліваць агонь на адным узроўні, панасіў са студні вады. Лазня ў дзядзькі над возерам. Але лета, азёрная вада цёплая.

І вось ужо закапала. Хутка зацурчыць. Дзядзька падстаўляе патрэбны посуд. Першая - гэта на лекі. Бутэлечку. Ну а затым ужо пакаштаваць - святая справа. У дзядзькі ў лазні ўжо і цыбуля, і сала, каб Аліну тупатам не турбаваць.

Кульнуўшы чарачку, закусіўшы, дзядзька расслабляецца. Цяпер толькі зрэдзь часу падкідвай дровы, мяняй ваду. Справа пайшла.

Колькі ён сябе помніць, займаліся ў вёсцы гэтай справай. Пры паляках, казалі, не так: вельмі строга паліцыя сачыла, ды і тых, хто мог данесці ў пастарунак, хапала. Затое ў вайну, гэта ўжо і Пётру помніцца з дзяцінства добра самагонку гналі, як кажуць, шырокім сцягам. Зерня ў людзей хапала. А не было яго куды дзець. Немцы прымалі і плацілі. Ды толькі ў іх мясцінах партызаны не дазвалялі вазіць яго на продаж. Вось і ішло дабро на самагонку. У тыя гады і прызвычаіліся мясцовыя мужыкі не проста выпіваць для весялосці, а піць па-сапраўднаму.

Шмат гналі і пасля вайны. Але ўжо на продаж. Трэба ж было апранацца, абувацца, падаткі плаціць. Бывала і так, што гналі самагонку з апошняга зерня, а з выжымак расчынялі хлеб. Не часта, але давялося пакаштаваць такога хлеба і Пётру Калі ўсталяваліся калгасы, з зернем стала скупавата. Але гналі ўсё роўна. Праўда, хавацца ўжо даводзілася як пры тых паляках. Пётра з бацькам ў тыя часы, перад ягонай службай, знайшлі сабе надзейную схованку ў нямецкім бункеры на беразе возера, які застаўся яшчэ з першай вайны. Цягі там амаль не было. Задыхаешся, кашляеш, на каленьках поўзаеш. Але ж затое зацішна.

Раптам Пётра пачуў блізкія крокі ў начы. Тарганула сэрца. Міліцыя? Ды не, не было такога. Аліна паднялася праверыць? Але гэта быў сусед Юзік.

-Здароў, самагоншчык, - гукнуў ён.

- Ціхэй ты.

- А каго баяцца? Хто ў нашу глуш паедзе ўначы? Хаця, Пётра, з коміна іскрынкі часам пралятаюць. Я чаго і прыйшоў. Падняўся карову паглядзець, бачу, а з тваёй лазні іскрынкі ляцяць. Гоніць!

Юзік прысеў на лаве ў прылазніку ля цьмянага агеньчыка свечкі. Пётра прынес бутэльку яшчэ цеплаватай, мутнаватай самагонкі. Гэта само сабой. Не прыдзі Юзік цяпер, раніцой бы пачаставаў яго абавязкова. Ды і Юзік у сваю чаргу.

- І чаму хлебная заўжды мутнаватая? Цукроўка - як сляза.

- Затое мяккая. І галава ніколі не баліць. Хлеб ён і ёсць хлеб.

- А ты ведаеш, чым адрозніваецца вінаград ад жыта?

- Дык жа вінаград - фрукт.

- Не, з вінаграда самаробная дазваляецца, а вось наша жытнёўка пад забаронай.

- У нас і вінаград той не расце. А з жыта для сябе пакрысе можна. Калі і ўчастковы не дай бог натрапіць, няўжо не даруе?

Разагнала іх на досвітку Аліна, устаўшы даіць карову. Прыбрала да сваіх рук увесь выраб. Але ў граве за лазняй у Пётры ёсць пару бутэлечак.

***Алесь Касцень.***

Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны

Рэдактар: Міхал Гіль

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84 E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на абсталяванні нашых сяброў